

# Купалінка

*Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!* Я.Купала

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 03 (44) • САКАВІК 2014



# МАСЛЕНІЦА!




**У нас сягоння Масленіца,**
**Прыляцела ластавіца,**
**Села-пела на жэрдачку,**
**Шчабятала вестачку!**

Ва ўсіх славянскіх народаў самым вясёлым было свята Масленіца (Масленка, Сырная седміца, Запусты). На Беларусі Масленіца не такая разгульная, як у Расіі, але таксама даволі вясёлая.

Масленіца святкавалася ў апошні тыдзень перад Вялікім пастом. Гэта першае веснавое свята, якое завяршае зіму і ўслаўляе прыход вясны, сонца і цяпла.

Масленіца святкавалася на працягу тыдня і называлася „шырокай". Яна была цесна звязана з праваслаўнай абраднасцю — у гэты тыдзень елі малочныя прадукты, бліны, аладкі. Яшчэ тыдзень пазней паводле царкоўных законаў трэба было развітацца з мясам.




У гэты перыяд у вёсках ідзе пагалоўны ацел и акот жывёлы. Таму на сялянскім святочным стале галоўнае месца займаюць малочныя прадукты: сыр, масла, заквашаныя бліны, якія ўжываліся з маслам. У народзе казалі «Масла на стале - Масленіца на двары».

Даследчыкі лічаць, што Масленіца адзначалася ў гонар бога Вялеса, які з'яўляўся ахоўнікам жывёлы. Вялес на працягу года зберагаў статак, надаваў яму сілу, клапаціўся пра павелічэнне, таму свята Сырнай седміцы было ўрачыстай падзякай богу-ахоўніку. З прыняццем хрысціянства адным з цэнтральных момантаў свята стаў чацвер на масленічным тыдні, у які ўшаноўваўся святы Уласій як прадаўжальнік язычкага Велеса.

Не абышло свята бокам і наш горад. Святочная праграма праходзіла ў парку імя 1 Мая і на Усходзе, у парку Воінаў-інтэрнацыяналістаў. Наведвальнікі свята маглі падсілкавацца блінамі, шашлыкамі і пловам, паўдзельнічаць у разнастайных конкурсах. Па традыцыі, спальвалі пудзіла чалавечых заган: п'янства, наркаманіі і гэтак далей.

Святочны настрой гараджанам дарылі выступленні творчых калектываў раёна і горада, завяршыўся канцэрт уражлівым фаер-шоў.

***Алена Салавейка***


## НАШИ ПРАВА


# НАРОДНЫ РЭФЕРЭНДУМ

**«Народны рэферэндум» - законнае права беларусаў выказацца, шанец на перамены, на вяртанне павагі да сябе з боку ўлады, на годнае жыцце ў надзейнай дзяржаве.**

У парадку дня - шэсць пытанняў.

**1. Ці згодныя Вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?**

Прафесійная і даступная медыцына, адукацыя – гэта элементарнае права на годнае цяперашняе і будучае для нас і (галоўнае!) для нашых дзяцей! Дзяржава не мае права рабіць бізнес на нашым здароўі і абмяжоўваць нашы магчымасці.

**2. Ці згодныя Вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?**

Мясцовыя начальнікі павінны залежаць ад народа і служыць народу, а не прэзідэнту з царскімі паўнамоцтвамі. Бо паводле Канстытуцыі ўлада – гэта народ, гэта значыць, усе мы разам!

Народны Рэферэндум ТАК!

**3. Ці падтрымліваеце Вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім саюзам?**

Сяброўства з аб'яднанай Еўропай – гэта проста выгадна. Гэта высокія стандарты ўзроўню жыцця, гэта свабода падарожжаў, гэта разнастайная падтрымка вываду з крызісу нашай занядбанай эканомікі.

**4. Ці згодныя Вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?**

Беларусы ўмеюць і працаваць, і ваяваць за родную зямлю, калі гэта трэба. Але мы не павінны ахвяраваць сваімі жыццямі і сваёй зямлёй за чужыя інтарэсы.

**5. Ці згодныя Вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?**

Усё павінна быць у меру – інакш застой і разлажэнне. Цывілізаваны кіраўнік не павінен прысабечваць уладу і перадаваць яе ў спадчыну. Беларусаў нельга так прыніжаць.

**6. Ці згодныя Вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?**

Прадпрыемствы - гэта народнае багацце. А памылкі, зробленыя ў эканоміцы кіраўніцтвам краіны, не павінны выпраўляцца за наш кошт.

**Партыя БНФ далучаецца да збору подпісаў. Калі вы жадаеце пакінуць свой подпіс у падтрымку «Народнага рэферэндума», тэлефануйце: (029) 222-58-28, пішыце: vybor@tut.by.**

**Сайт: referendumby.org**

# Партыя БНФ




## СЁННЯ РАСЕЙСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ БАЗЫ, ЗАЎТРА - КРЫМСКІ СЦЭНАР!

**Партыя БНФ рашуча асуджае расейскую ваенную агрэсію ў Крыме супраць украінскай дзяржавы.**

Партыя БНФ выказвае салідарнасць з народам Украіны, новым украінскім урадам і карэннымі жыхарамі Крыму ў іх імкненні захаваць тэрытарыяльную цэласнасць Украіны.

Партыя БНФ звяртаецца да міжнароднай супольнасці, у тым ліку да ўрадаў ЗША і Велікабрытаніі як гарантаў незалежнасці Украіны, з заклікам неадкладна прымяніць усе магчымыя сродкі для спынення ваеннай агрэсіі Расеі супраць Украіны.

**Мы таксама звяртаемся да беларускага ўраду і беларускага народа з мэтай неадкладна дамагчыся вываду ўсіх расейскіх ваенных аб'ектаў з тэрыторыі Беларусі.**

На прыкладзе падзей у Крыме мы бачым, што расейскія вайскоўцы на тэрыторыі іншай краіны, нават калі гэтая краіна не варожая, могуць быць ужытыя супраць інтарэсаў гэтай краіны з мэтай блакавання інфраструктуры і прымянення іншых гвалтоўных дзеянняў, накіраваных на рэалізацыю імперскіх амбіцый Крамля.

**Відавочна, што пакуль расейскія вайскоўцы знаходзяцца на нашай зямлі, такі гвалтоўны сцэнар можа быць у любы момант рэалізаваны Крамлём і ў Беларусі.**

**РАСЕЙСКІЯ ВАЙСКОЎЦЫ – ПРЭЧ З БЕЛАРУСІ!**




**Далучайся да Партыі БНФ у Брэсце: (029) 222-58-22, vybor@tut.by**

## У БЕРАСЦІ БНФ ЗАКЛІКАЕ ВЫВЕСЦІ РАСЕЙСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ БАЗЫ З БЕЛАРУСІ

**"Сёння расейскія вайсковыя базы, – заўтра крымскі сцэнар", "Расейскія вайскоўцы – прэч з Беларусі!". Пад такімі лозунгамі актывісты і кандыдаты ў дэпутаты Партыі БНФ у Берасці прынялі ўдзел у агітацыйным пікеце, які праводзілі сёння актывісты дэмакратычных сіл.**

Як адзначана на агітацыйных стэндах, Партыя БНФ рашуча асуджае расейскую ваенную агрэсію ў Крыме і выказвае сваю поўную салідарнасць з народам Украіны, новым украінскім урадам і карэннымі жыхарамі Крыму ў іх імкненні захаваць тэрытарыяльную цэласнасць Украіны.

Старшыня Берасцейскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Дзмітрый Шымански адзначыў, што выбаршчыкі актыўна падтрымлівалі антываенную пазіцыю партыі:

*- У нас яшчэ жыве памяць пра ўсе жахі, якія прыносіць вайна. Людзі не могуць нават уявіць, каб паміж нашымі бліжэйшымі суседзямі пачаўся узброены канфлікт, які можа закрануць і нас. Але для Беларусі гэта выразны прыклад, як расейскія ваенныя аб'екты могуць уплываць на палітыку нашай краіны. Крызіс у Крыме, дзе з кожным днём расце напружанасць, выразна дэманструе, як расейскія ваенныя аб'екты на тэрыторыі іншай дзяржавы могуць ператварыцца ў плацдармы ваеннай агрэсіі. Мы рашуча выступаем за вывад усіх расейскіх ваенных аб'ектаў з тэрыторыі Беларусі,* - адзначыў Дзмітрый Шымански.

Пікет, які цягнуўся 2 гадзіны, выклікаў вялікую ўвагу выбаршчыкаў. Актывісты Партыі БНФ таксама раздавалі партыйны бюлетэнь, збіралі подпісы за правядзенне Народнага рэферэндуму, размаўлялі з выбаршчыкамі наконт лакальных праблем мікрараёна.

# МЯСЦОВЫЯ ЎЛАДЫ ПРЫНЕСЛІ ПРАБАЧЭННІ ПАРТЫІ БНФ

**Берасцейскі гарвыканкам і абласная выбарчая камісія прынеслі прабачэнні Партыі БНФ за несапраўдныя звесткі пра колькасць вылучаных кандыдатаў, распаўсюджаныя гарадской выбарчай камісіяй. Супрацоўнік гарвыканкама, адказны за памылку, прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.**

1 сакавіка Берасцейская абласная арганізацыя Партыі БНФ атрымала адказ на сваю скаргу на дзеянні гарадской выбарчай камісіі, якая распаўсюдзіла несапраўдныя звесткі пра колькасць зарэгістраваных кандыдатаў ад Партыі БНФ на выбарах у Берасцейскі гарсавет.

У адказе, атрыманым ад гарвыканкама, паведамляецца, што супрацоўнік выканкама, адказны за памылку, прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці, яму аб'яўлена заўвага, гарвыканкам прыносіць свае прабачэнні.

Пісьмовыя прабачэнні прынесла таксама Берасцейская абласная выбарчая камісія, але прыцягваць да адказнасці супрацоўнікаў гарадской выбарчай камісіі адмовілася з-за адсутнасці "сур'ёзных падстаў".

Старшыня абласной арганізацыі Партыі БНФ Дзмітрый Шыманскі задаволены атрыманым адказам, аднак звяртае ўвагу на тое, што не выключана патэнцыйная магчымасць новых памылак у працы камісіі:

*- Адмовіўшыся выключыць са складу камісіі людзей, якія дапускаюць арыфметычныя памылкі, Берасцейскі гарвыканкам не зняў патэнцыйную магчымасць новых памылак. У прыватнасці, падчас падліку галасоў выбаршчыкаў. Партыя БНФ, як і іншыя дэмакратычныя сілы, не маюць сваіх прадстаўнікоў у складзе гарадской выбарчай камісіі. Мы не маем магчымасці праверыць правільнасць падліку галасоў. Таму, мы не выключаем магчымасці, што падчас падліку галасоў выбаршчыкаў могуць быць дапушчаныя памылкі.*

***dzedzich.org***



БРЭСЦКІ ГАРАДСКІ
ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

вул. Энгельса, 3, 224005, г. Брэст, 5
тэл. (8-0162) 23 98 38, факс (8-0162) 23 70 64
e-mail: ispolkombrest@Brest.by
р/р 3604000002568 у філіяле 100
БАУ ААТ «ААБ Беларусбанк» г. Брэста
УНП 200020300, МФА 246

БРЕСТСКИЙ ГОРОДСКОЙ
ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

ул. Энгельса, 3, 224005, г. Брест, 5
тел. (8-0162) 23 98 38, факс (8-0162) 23 70 64
e-mail: ispolkombrest@Brest.by
р/с 3604000002568 в филиале 100
БОУ ОАО «АСБ Беларусбанк» г. Бреста
УНП 200020300, МФО 246

27.02.2014 № 35-1/1410

На № ________ от ____________

Шыманскаму Д.П.
вул. Маладагвардзейская, д. 14/1
г. Брэст

Паважаны Дзмітрый Пятровіч!

Разгледзеўшы Ваш зварот датаваны 27 ліпеня 2014 г. № 0001 на дзеянні Брэсцкай гарадской выбарчай камісіі, адказваем наступнае.

Пры перадачы статыстычных дадзеных аб вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Брэсцкага гарадскога Савета дэпутатаў ў Брэсцкую абласную выбарчую камісію спецыялістам гарвыканкама, які ў адпаведнасці з артыкулам 38 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь аказваў садзейнасць камісіі, дапушчана тэхнічная недакладнасць.

Разам з тым, звяртаем Вашу ўвагу, што ў паведамленні Брэсцкай гарадской выбарчай камісіі аб вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Брэсцкага гарадскога Савета дэпутатаў, апублікаваным у друкаваных СМІ, дадзеныя аб партыйнай прыналежнасці кандыдатаў пададзены правільна (Брэсцкая абласная газета "Заря" за 22 лютага 2014 г. і газета "Вечерний Брест" за 26 лютага 2014 г.).

У ніякім выпадку не мелася намеру наносіць шкоду рэпутацыі партыі БНФ. Просім прабачэння. Аднак адзначаем, што Вы таксама ў сваім звароце дапусцілі недакладнасць, датавалі яго 27 ліпеня 2014 г.

Паведамляем, спецыяліст гарвыканкама, што дапусціў недакладнасць, прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці, аб'яўлена заўвага.

У цяперашні момант на афіцыйным сайце Брэсцкага аблвыканкама ўнесены змены аб колькасці кандыдатаў у дэпутаты Брэсцкага гарадскога Савета дэпутатаў ад патрыі БНФ.

У выпадку нязгоды з адказам Вы маеце права абскардзіць яго ў Брэсцкім абласным выканаўчым камітэце (224005 г. Брэст, вул. Леніна, 11).

Намеснік гарвыканкама Г.І.Барысюк

35. Мокат 23 69 90

# БРЕСТ – ЗА ПРАВО ВЫБОРА!

**Хочешь узнать, как на самом деле считают голоса? Есть ли шансы у независимых кандидатов? Кто будет варить борщ на белорусской политической кухне? У любого жителя Брестской области появилась возможность своими глазами увидеть подсчёт голосов на избирательных участках.**

Рады сообщить, что Партия БНФ начинает подготовку наблюдателей на выборы в рамках кампании «Право выбора». Приглашаем всех, кому интересно принять участие в наблюдении, посмотреть, как организован процесс голосования и подсчёта голосов.

- Что надо делать: в день выборов (воскресенье, 23 марта), с 7-30 до 23-00 сидеть на участке для голосования и наблюдать, как происходит голосование. А потом смотреть за подсчётом голосов. В дни досрочного голосования (18-22 марта) провести некоторое время на участках для голосования по очереди.

-Кто-то вам скажет, что эти выборы не важны, от них ничего не зависит. Это правда. Но в следующем году – президентские выборы. И там ваш опыт будет бесценен для победы.

Поэтому даже не думайте – звоните и записывайтесь.

**НА ВЫБОР 2 ДАТЫ И ВРЕМЕНИ:**

- воскресенье, 9 марта – 12-00.
- вторник, 11 марта – 18-00.

Телефоны для записи на тренинг наблюдателей:
(029) 222-58-28 (Владимир) или
(029) 724-21-16 (Дмитрий).

Требования к наблюдателям минимальные: возраст от 18 лет, гражданин РБ.

Интернет: (http://vk.com/brest_za_sv)

***dzedzich.org***

## ЗА НАШИ ПРАВА!

# Партыя БНФ




## НАШЫ КАНДЫДАТЫ



**Ярамчук Вольга Аляксандраўна,** 24 гады, Настаўнік ангельскай мовы ў СШ № 24, музыкант, рэдактар студэнцкага бюлетэня «Дзедзіч»



**Хаміцкая Таццяна Уладзіміраўна,** 24 гады, Настаўнік Гімназіі №6, валанцёр кампаніі «За вела-Брэст!» Агенцтва рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч»



**Гендзель Таццяна Аляксандраўна,** 25 гадоў, акцёр тэатра агню «Бліскавіца», галоўны рэдактар бюлетэня «Юбілейка» Партыі БНФ



**Качурка Раман Святаслававіч,** 23 гады, менеджэр-эканаміст, магістрант Варшаўскага ўніверсітэта. Эксперт па Балонскай сістэме вышэйшай адукацыі

## НАША ПРАГРАМА

**ПЕШЕХОДНЫЙ ПЕРЕХОД БРЕСТ-ТЕРЕСПОЛЬ!**
Будем добиваться скорейшей ратификации Соглашения о малом приграничном движении (безвизовый режим для жителей пограничной зоны, в том числе для брестчан). Наша задача – отмена виз и упрощённый переход границы. Также необходим пешеходный пункт пропуска Брест-Тересполь.
Высказывайте своё мнение: (029) 222-58-22.
**За открытые границы для брестчан!**

**РЕШЕНИЕ ЛОКАЛЬНЫХ ПРОБЛЕМ!**
Наши юристы по обращениям граждан составляют жалобы и заявления в органы власти по наболевшим проблемам.
Активисты БНФ и сами жильцы проводят сбор подписей под ними.
Эти проблемы освещаются в локальных газетах «Юбилейка» и «Купалинка».
Обращайтесь: (029) 527-39-43.
**Став депутатами, мы сможем больше!**

**ЗА РАЗВИТИЕ ВЕЛОСИПЕДНОЙ ИНФРАСТРУКТУРЫ!**
Велосипед - лучшее средство для экономии денег, личного здоровья и городской экологии. Сделать Брест дружественным для велосипедистов - наша с вами задача на следующие 4 года. Присоединяйтесь к кампании «За вело-Брест!»: (029) 222-58-22.
**Выбираем здоровый образ жизни!**

**ПОМОЩЬ БЕЗДОМНЫМ ЖИВОТНЫМ!**
Бресту необходим приют для бездомных животных. Это - важный показатель цивилизованного общества. Варварский отстрел животных на глазах наших детей нужно прекратить! Снижение количества бездомных животных должно проводиться гуманными методами.
Не оставайтесь равнодушными: (029) 525-79-63.
**Мы о ответе за тех, кого приручили!**

**КУЛЬТПЛЯЦОЎКА НА ВУЛ. САВЕЦКАЙ!**
У Берасці вуліца Савецкая мае ўсе магчымасці стаць паўнавартаснай пляцоўкай вулічнага мастацтва. Дастаткова адкрыць яе для вулічных артыстаў, музыкаў, танцораў, мастакоў, рамеснікаў. Гэтаму пакуль перашкаджаюць мясцовыя ўлады і праваахоўныя органы. Наша задача - дазволіць творчым калектывам правядзенне выступаў на Савецкай па заяўляльным прынцыпе.
Аб'ядноўваем намаганні ўсіх творчых людзей: (033) 328-65-94.
**За вольнае паветра для творчасці!**

**КОНТРОЛЬ ЗА ИСПОЛНЕНИЕМ НАКАЗОВ ИЗБИРАТЕЛЕЙ!**
Жители микрорайона формируют свои требования к властям, составляют список волнующих проблем и вручают своему депутату. Наш депутат доводит их требования до сведения власти, добивается решения проблем. И раз в месяц проводит собрания для отчёта по наказам.
Ждём ваших наказов: (029) 222-58-22.
**А вы знаете своего депутата?**

## НАШЫ КАНДЫДАТЫ



**Белая Аляксандра Віктараўна,** 32 гады, Настаўнік Жабінкоўскай дзіцячай школы мастацтваў, актывістка групы «Абарона правоў жывёлаў»



**Амельянчук Ірына Мікалаеўна,** 53 гады, намеснік начальніка вытворча-тэхнічнага аддзела ААТ «Будгаз г. Брэста», актывістка групы «Абарона правоў жывёлаў»



**Красько Уладзімір Канстанцінавіч,** 34 гады, Настаўнік у СШ № 30, Каардынатар кампаніі «За вела-Брэст!» Агенцтва рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч»




**Дацкевіч Антон Андрэевіч,** 21 год, Гісторык, валанцёр кампаніі «Наша мова» Агенцтва рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч»


## Купалінка

*ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ*

- **Заснавальнік** – Суполка "Усход-2" гарадской арганізацыі Партыі БНФ
- Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранага карыстання
- **Падпісана ў друк** 05.03.2014 года ў 12-00
- Папера афсетная, 0,5 ул.-друк. аркуша, фармат А4. Гарнітура Myriad
- Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
- **Наклад:** 299 асобнікаў
- Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
- **Галоўны рэдактар:** Уладзімір ТАРНОЎСКІ
- **Рэдакцыйная калегія:** Кірыл КАТОВІЧ, Наста ПАПЯЛОЎСКАЯ, Ульяна ВЕНЦЕЛЬ
- **Кантактны тэлефон: (029) 222-58-22, (029) 660-57-41**
- **E-mail:** kupalinka_bnf@tut.by